*Інфармацыя Аналітыка Публіцыстыка*

***№14 сакавік 2012***

# ПРЭЗУМПЦЫЯ

***Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь***

# 25-га Сакавіка
# Дзень Волі




***Лепшыя сыны і дочкі нашай нацыі аддалі жыцці за тое, каб такі дзень быў у гісторыі беларускага народу. І таму ў гэты дзень беларусы мусяць паказваць усяму свету, адзін другому, а найперш самым сабе, што яны зрабілі свой выбар за Вольную Беларусь!!!***

# Уладзіслава Кавалёва і Дзмітрыя Канавалава расстралялі



Сваякі Улада Кавалёва атрымалі паведамленне з Вярхоўнага суду, адпраўленае 16-га сакавіка, аб тым, што прысуд прыведзены ў выкананне.

Даведку пра тое, што прысуд прыведзены ў выкананьне, даслалі на хатні адрас Кавалёвых у Віцебску. Ліст з паштовай скрыні дастала маці, Любоў Кавалёва. Гаварыць яна ня можа — толькі плача.

«Во толькі што мама са скрыні дастала. Вярхоўны суд...ад 16.03 ліст... што прысуд прыведзены да выкананьня... Мама яго атрымала. Яны яго забілі, усё было дарэмна, усё дарэмна», — толькі і смагла сказаць скрозь сьлёзы Тацяна, сястра Ўладзіслава Кавалёв.

Ў выпадку з асуджанымі па справе тэракту ўлады паспяшаліся.

Варта нагадаць, што на разглядзе ў камітэце ААН па правам чалавека знаходзіцца скарга якую накіравалі сваякі Кавалёва. Камітэт прасіў беларускія ўлады не выконваць смяротны прысуд пакуль яна не будзе разгледжаная.

Дзмітрый Канавалаў, таксама асуджаны на смяротнае пакаранне паводле абвінавачання ў тэрарызме па гэтай крымінальнай справе, прашэнне аб памілаванні падаваць адмовіўся. Як стала вядома, прысуд у дачыненні яго таксама выкананы.

# Ліст ад Алеся Бяляцкага атрымалі гарадзенскія праваабаронцы



Алесь Бяляцкі даслаў чарговы ліст гарадзенскім сябрам-праваабаронцам ужо з бабруйскай калоніі.

У ім кіраўнік Праваабарончага цэнтру "Вясна" ні на што не наракае. Піша, што тыя, хто служыў у войску, асабліва ў савецкім, могуць прыгадаць у такой сітуацыі сваю вайсковую службу. Бо распарадак нечым падобны.

Адзінае, чаго яму моцна бракуе – дык гэта непасрэднага асабістага кантакту з роднымі, блізкімі і сябрамі.

Таксама Алесь піша, каб за яго моцна не непакоіліся і падбадзёрвае тых, хто на волі.

# Гарадзенскаму ТБШ не даюць памяшкання для дыктоўкі



Гарадзенскаму Таварыству Беларускай Школы прышлі афіцыйныя адмовы ў прадастаўленні памяшкання для правядзення беларускамоўнай дыктоўкі.

Як патлумачыла старшыня арганізацыі Тацяна Канопкіна, Гарадзенскае ТБШ накіравала афіцыйныя лісты ў мясцовы гарвыканкам, Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь і Гарадзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы з просьбай прадставіць памяшканне ўніверсітэта для правядзення 25 сакавіка бягучага году беларускамоўнай дыктоўкі.

Але прыйшлі адмоўныя афіцыйныя адказы.

# На Дзень Волі ў Гародні затрыманы праваабаронца Уладзімір Хільмановіч

Яшчэ перад пачаткам святкавання Дня Волі ў Гародні быў затрыманы праваабаронца Уладзімір Хільмановіч. Пра гэта паспеў паведаміць ужо з міліцэйскага пастарунка сам затрыманы:

- Выйшаў з аўтобуса з кветкамі. Двое ў цывільным мяне затрымалі, прадставіліся, паказалі пасведчанні. Завезлі ў пастарунак на Гараднічанскую. Зараз будзе разбіральніцтва. Я хацеў ускласці кветкі да мемарыяльнай шыльды на чыгуначным вакзале.

Праз нейкі час каля трыццаці гарадзенцаў пайшлі пад міліцэйскі пастарунак у знак салідарнасці з затрыманым.

У Гародні Дзень Волі адзначаецца ўскладаннем кветак да помнікаў. Гарвыканкам не дазволіў правядзенне ў горадзе над Нёманам мітынгу ў Парку Жылібера. У такой сітуацыі аргкамітэт па святкаванні ўгодкаў БНР заклікаў ахвочых ехаць у Мінск на дазволены ўладамі мітынг. Гарадзенцам жа прапанавалася сёння ўскласці кветкі да памятных



шыльдаў і помнікаў. У 16-ць гадзін пачалося ўскладанне кветак да шыльды паўстанцам 1863 году, што на чыгуначным вакзале.

***17 сакавіка ў вячэрнім выпуску навінаў тэлеканал ОНТ паведаміў, што ў дачыненні да Уладзіслава Кавалёва і Дзмітрыя Канавалава смяротныя прыгаворы прыведзеныя ў выкананне . Беларуская ўлада не прыслухалася да голасу праваабаронцаў і еўрапейскіх краінаў і Беларусь і надалей застаецца адзінай краінай у Еўропе, дзе практыкуецца смяротнае пакаранне.***

# Адказнасць за жыццё

Расстрэл. Гучыць жудасна і нечакана. Хоць усе ведалі, што так можа здарыцца, а хутчэй за ўсё так і будзе, усядно гэтая навіна прагучала нечакана.

Які можа быць расстрэл!? У нас што тут, вайна пачалася, ворагі, іншаземныя салдаты, марадзёры, здраднікі? Якая неабходнасць забіваць чалавека? Можа трэба імкліва адступаць нашым войскам у тыл а варожага дыверсанта няма куды дзець, як толькі паставіць да сцяны, ці што? Ці якая яшчэ такая прычына ёсць, што чалавека трэба абавязкова забіць!?

На гэтае пытанне знайсці адказу не магу. Хоць трэба яго шукаць нават зараз, калі ўжо позна. Калі людзей ужо няма ў жывых. І не пра тое гаворка, вінаватыя яны ці не. Ці цалкам даказаная іх віна, ці бок абвінавачання чаго не дагледзеў. Ці яшчэ што горш. Зусім не пра тое размова. А толькі пра тое, навошта гэта рабіць?

Зрэшты, гэта не першыя расстраляныя ў Беларусі людзі. Пасля таго, як на рэферэндуме 1996-га году беларускае грамадства прагаласавала за смяротную кару, за тое, каб дзяржава мела права забіваць людзей, дзяржава гэтае права рэалізоўвае. Рэалізоўвае ад імя народу, які надзяліў такімі паўнамоцтвамі дзяржаўную сістэму. І сама крыўднае, што яна мае права гэта рабіць ад імя народу, бо народ узяў на рэферэндуме бюлетэні і паставіў галачку у графе “за”. За смяротнае пакаранне.

Людзі выбралі смерць. Зразумела, што смерць для некага. Не для сябе ж. А ўсяго толькі для бліжняга. Але ў жыцця своеасаблівае пачуццё гумару. Бо многія сваякі расстраляных, як галасавалі за смерць, не думалі, што гэта можа тычыцца непасрэдна іх і іх блізкіх. Не задумаліся, што бяда можа пастукаць ва ўсякія дзверы.




А большасць з тых, хто тады галасаваў на рэферэндуме, не захацелі зразумець, а мо ўсё разумелі, але не захацелі прызнацца, што кожны грамадзянін нясе адказнасць за стан злачынства ў грамадстве. Не захацелі ўзяць гэтую адказнасць на сябе. Спіхнулі на некага. На дзяржаву. Няхай, маўляў, нехта там разбіраецца і прымае рашэнні. Хоць добра ведалі, што няма на свеце дзяржавы, якая можа гарантаваць, што ні разу не памыліцца яе судовая і следчая сістэма. І добра ведалі факты, калі такія трагічныя памылкі рабіліся ў мінулым. А калі і не ведалі, то значыць не хацелі ведаць. Уцякалі ад праўды. Ды як сказаў мудрэц: “Няведанне не ёсць апраўданне. Усе няведальнікі ў пекла пойдуць”. І нават тыя, хто ў замагільнае жыццё прынцыпова не верыць.

Выбар нашага народу тады паў на смерць. Ці не за гэты выбар увесь народ зараз нясе пакуты і адказнасць? Бо можна памыліцца ў выбары дэпутата, кіраўніка краіны, выбары вектару развіцця, выбару з кім сябраваць і з кім інтэгравацца. Можна памыліцца нават у выбары палітычнай сістэмы. Гэта не так важна. Гэта ўсяго толькі памылка, якую можна выправіць пры вялікім жаданні большасці грамадства. Але расстралянага чалавека да жыцця ўжо не вернеш. І таму выбраць смерць, гэта не памылка. Гэта погляд на сусвет, прага помсты і нават стан характару. Гэта духоўны стан, калі слова “духоўны” увогуле можна прымяняць да такога стану. Гэта жудасны негатыў у чалавечых душах. Чарната і пустата.

І калі ёсць пасля 1996-га году хоць адзін нявінна забіты дзяржаўнай машынай чалавек, то кожны грамадзянін гэтай краіны нясе адказнасць за гэтае загубленае жыццё. І той хто агітаваў на рэферэндуме за кару смерці, і той, хто галасаваў за яе. І той хто не прыйшоў галасаваць, тым самым абыякава паставіўшыся да пытання жыцця і смерці. І нават той, хто прагаласаваў супраць. Бо не змог адстаяць сваю праўду. Пабаяўся. Ці яшчэ горш – паленаваўся.

І калі мы наракаем, што мы адзіная краіна ў Еўропе якая не з Еўропай, ці мы адзіныя ў Еўропе каму трэба візы ў Еўропу, ці мы адзіныя ў Еўропе, хто жыве не так, як у Еўропе, то трэба найперш усвядоміць, што мы адзіная ў Еўропе краіна, якая практыкуе смяротнае пакаранне. Мы адзіныя, з усёй супольнасці еўрапейскіх народаў паставілі галачку “за” у графе за смяротнае пакаранне.

*Віктар Сазонаў*

# Хроніка правапарушэнняў

## *Гарадзеншчына, сакавік*

**12 сакавіка** ў Гарадзенскім абласным судзе на паседжанні судовай калегіі па грамадзянскіх справах былі разгледжаны дзве прыватныя скаргі на вызначэнні суду Ашмянскага раёну па справе Мікалая Уласевіча. Адну з гэтых скаргаў падаваў сам Уласевіч, другую – яго прадстаўнік у судзе ад Беларускага Хельсінкскага Камітэту Гары Паганяйла. Першая скарга датычыла таго, што суд Ашмянскага раёну адмовіў Уласевічу ў прыняцці дадатковага рашэння ў дачыненні да судовых выдаткаў. Паколькі рашэннем суду пазоў грамадзяніна Дзятко быў задаволены толькі часткова, Уласевіч меў права на атрыманне кампенсацыі судовых выдаткаў прапарцыянальна задаволенай часткі скаргі. У абодвух выпадках судовая калегія адмовіла ў задавальненні гэтых прыватных скаргаў, не патлумачыўшы прысутнаму Уласевічу сутнасці адмовы.

Яшчэ **7 сакавіка** сябры дэмакратычнага згуртавання горада звярнуліся ў Слонімскі райвыканкам з заявай аб правядзенні ў гарадскім парку 25 сакавіка масавага мерапрыемства, прысвечанага Дню Волі. Мэтай масавага мерапрыемства ў заяве было пазначана “публічнае адзначэнне ўгодкаў абвяшчэння БНР, а таксама абмеркаванне і выказванне грамадзянамі свайго стаўлення да бягучых праблемаў грамадска-палітычнага жыцця ў Беларусі”. У мерапрыемстве планавалі прыняць удзел каля 100 чалавек. Слонімскі райвыканкам, як гэта адбываецца ў апошнія гады, катэгарычна адмовіў у правядзенні мітынгу: маўляў, заява была адпраўлена 7 сакавіка, а зарэгістравалі яе чамусьці **11 сакавіка.**

Гарадзенскаму Таварыству Беларускай Школы прышлі афіцыйныя адмовы на прадстаўленне памяшкання для правядзення беларускамоўнай дыктоўкі. Як патлумачыла старшыня арганізацыі Тацяна Канопкіна Гарадзенскае ТБШ накіравала афіцыйныя лісты ў мясцовы гарвыканкам, міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь і Гарадзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы з просьбай прадставіць памяшканне ўніверсітэту для правядзення 25 сакавіка бягучага году беларускамоўнай дыктоўкі. Аднак з дзяржаўных установаў прыйшлі адмоўныя афіцыйныя адказы. Міністэрства адукацыі і гарадзенскі гарвыканкам абгрунтоўваюць свае адмовы тым, што, маўляў заяўнікі не прадставілі адпаведнай дамоўленасці з універсітэтам.



**20 сакавіка** ў Гародні супрацоўнікі міліцыі загадзя папярэджвалі заяўнікаў мітынгу да Дня Волі на **25 сакавіка** пра адказнасць у разе правядзення несанкцыянаваных акцый, якія будуць парушаць грамадскі парадак. Аднаму з заяўнікаў Юрыю Істоміну тэлефанавалі з міліцыі днём і пыталіся, дзе і калі яго можна ўбачыць. На кватэру Уладзіміра Хільмановіча прадстаўнік міліцыі прыходзіў а шостай вечара, але гаспадара яшчэ не было дома. Пазней маёр міліцыі патэлефанаваў на хатні нумар і спытаў, ці будзе ён дома. Хільмановіч пацвердзіў, што будзе, пасля чаго маёр прыехаў і паведаміў, што заяўнікам у правядзенні мітынгу **25 сакавіка** ў Гародні адмоўлена. А між тым за **5 дзён** да заяўленага мерапрыемства, гарвыканкам так і не паведаміў заяўнікам сваё афіцыйнае рашэнне. Нібыта рашэнне пра адмову было прынятае 19-га сакавіка, але ўлады не знайшлі магчымасці паінфармаваць грамадскіх актывістаў.

Гарадзенскі гарвыканкам даслаў сваё афіцыйнае рашэнне за подпісам намесніка старшыні Ірыны Сенчанковай заяўнікам правядзення мітынгу ў горадзе над Нёманам. У адрозненне ад сталіцы святочны мітынг на Дзень Волі ў горадзе над Нёманам забаронены. У сваёй адмове мясцовая ўлада бюракратычна спаслалася на невыкананне заяўнікамі часткі 4 артыкулу 5 Закона Рэспублікі Беларусь “Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь”.

Святкаванне **25 Сакавіка** ў Гародні было адзначана некалькімі затрыманнямі. Перад пачаткам ускладання кветак на чыгуначным вакзале да шыльды паўстанцаў 1863 году быў затрыманы Уладзімір Хільмановіч, грамадскі праваабаронца і публіцыст. ¨н прыехаў на вакзал з кветкамі і адразу на прыпынку без усялякіх падставаў быў схоплены міліцыянтамі ў цывільным. Хільмановіча завезлі ў пастарунак па вуліцы Гараднічанскай, дзе ўзялі тлумачэнні, пасля чаго адпусцілі. Каля чыгуначнага вакзалу, калі грамадскія актывісты ўскладалі кветкі, міліцыя затрымала таксама сябра БСДГ Андрэя Ермашука, які прыехаў на аўтамабілі. Яго звінавацілі нібыта ў няправільнай паркоўцы машыны і аштрафавалі. Тым часам два дзесяткі грамадска-палітычных актывістаў рушылі на Гараднічанскую вуліцу да аддзялення міліцыі. Калі Хільмановіча адпусцілі, удзельнікі святкавання падзяліліся на дзве групы і ўсклалі кветкі да шыльды паўстанцам Тадэвуша Касьцюшкі на Новым замку і да дому, дзе ў час БНР была беларуская вайсковая камендатура.

# Абсалютны прыярытэт

***Ну вось і яшчэ адна элегантная перамога на постсавецкай прасторы. Уладзімір Пуцін, якому па праву і належаць практычна ўсе перамогі амаль усіх кандыдатаў краін СНД, якіх менавіта ён і абірае, зацвярджае і падтрымлівае, на гэты раз перамог сам. ¨н упэўнена абставіў усіх яго сапернікаў, разбіўшы ўшчэнт. Набраў больш за 60 адсоткаў, пакінуўшы астатнія дзяліць тым чатыром, якія выконвалі на гэтых расійскіх выбарах ролю зазывал, разагрэву і падтанцоўкі.***

Каб сапернікаў у Пуціна было не чатыры, а чатыры тысячы, то вынік быў бы такім жа. Больш за 60 адсоткаў Пуціну, астатнія ён вырашыў бы каму колькі. Зрэшты, усё гэта прагназавалася задоўга да выбараў. Гэта там, на Захадзе ды ў Амерыцы да апошняй хвіліны невядома, які з кандыдатаў набярэ крыху больш галасоў за другога. Тут усё па іншаму. Тут усё вядома. І хто пераможа, і якую палітыку ён павядзе на будучыню. Зрэшты, ён яе ужо агучыў.

– Для нас абсалютным прыярытэтам у знешняй палітыцы ёсць краіны СНД, – сказаў ён журналістам, пасля абвяшчэнне першых вынікаў падліку галасоў.

Ніхто і не сумняваўся. Знешняя палітыка, усяго толькі працяг унутранай. Калі там усё ўдалося падмяць пад сябе, то чаму не распаўсюдзіць гэты досвед для пачатку на суседзяў. На так званае СНД, што можна чытаць як СССР.

Чаму б не паспрабаваць гэта зрабіць, калі практыка паказвае, што менавіта брутальна захопленыя тэрыторыі і ёсць найбольш падуплыўнымі. Прыкладам Чачня. Малацілі гарады і вёскі гэтай маленькай рэспублікі і артылерыяй, і самалётамі ваенна-паветраных сілаў. І танкамі прайшліся і пяхотай. Крыві налілі і чачэнскай і расійскай не мерана. Затое цяпер Чачня прагаласавала за Пуціна лепш чым які іншы рэгіён. Больш за 90 адсоткаў. Значыць, каб усе так зрабілі, трэба і з усімі так зрабіць, як з чачэнцамі. Мышленне зразумелае і абсалютна лагічнае, калі згрызотаў сумлення няма і не бывае.

А што да “абсалютнага прыярытэту”, то думаю што найперш гэта мы, беларусы. Яшчэ не пачынаўся падлік галасоў у



Расіі, а ў Маскве ўжо збівалі дошкі для арэны, на якой будзе выступаць пераможца выбараў Пуцін. Яшчэ не зачыніліся выбарчыя дзяльніцы, а ўжо аўтобусамі, з усіх куткоў неабсяжнай Расіі везлі ўдзячных слухачоў новага прэзідэнта, якім той сказаў: “Мы ім даказалі”. А ўсе, хто зразумеў і хто не зразумеў мусілі пляскаць у далоні.

А яшчэ раней, другі нумар кіруючага дуэта, на той момант дзейсны прэзідэнт Расійскай Федэрацыі сустрэўся з беларускім кіраўніком. І план “Абсалютны прыярытэт” уступіў у сілу. У Беларусі пачаўся дыпламатычны скандал.

Да скандалаў з замежнымі пасламі ў нас ужо даўно прывыклі. Гэта мы ўжо праходзілі. Цяперашні скандал не першы. І не апошні. І тут, у цяперашнім дыпламатычным супрацьстаянні усё абсалютна лагічна і да болю ў зубах прадказальна. Гэта натуральна для сённяшняй беларускай рэчаіснасці, што так абышліся з прадстаўнікамі іншых краін. Бо выстройваць нейкія дыпламатычныя адносіны з іншымі дзяржавамі імкнуцца тыя, хто як мінімум будуе сваю. Будуе на вякі і таму дбае пра гонар, аўтарытэт, надзейнасць, павагу і давер, пра сімволіку, мову, нацыянальную, культурную і духоўную спадчыны, гісторыю, выхаванне свайго патрыятызму, утрыманне свайго войска. Ну і, зразумела, пра свае грошы. І яшчэ пра многа рэчаў, якія па значнасці стаяць нашмат вышэй, чым міжнародныя стасункі.

Што ж будуецца сёння? А шмат чаго. І СНД, і саюзная Беларуска-расійская дзяржава, і Еўразійскі саюз, і адзіная мытная прастора, і яшчэ шмат чаго. Толькі новаму-старому начальніку расійскай дзяржавы гэтага мала. Яму, хіба, трэба як мінімум СССР у межах пасляваенных гадоў. А пасля, можа, і Расійская імперыя ў дарэвалюцыйных межах. А пасля…

Знешняя палітыка, ёсць усяго толькі працяг унутранай. Успомніце Чачню, як унутраную палітыку, або Грузію як палітыку Расіі ў СНД. А зараз, хіба, Беларусь, як аднаўленне СССР. Ці не пра гэта казаў расійскі пакуль што яшчэ прэм’ер у вызначэнні палітыкі “абсалютнага прыярытэту”.

*Віктар Сазонаў*

# А што пасля?

***На Дзень Волі еду з кветкамі і фотаапаратам да чыгуначнага вакзалу. Ужо праз шыбу па ўсім перыметры заўважаю шмат суб'ектаў характэрнай знешнасці. Выходжу на прыпынку каля аптэкі. Адразу падлятаюць двое ў цывільным хапаюць за рукі, адзін паказвае пасведчанне міліцыянта і безапеляцыйна прапануе ехаць з імі у пастарунак. Цягнуць у машыну і вязуць у аддзяленне на вуліцу Гараднічанскую. Там па нейкай абсурднай прыдумцы бяруць у мяне тлумачэнні: куды і чаго я ішоў. Урэшце досыць нечакана хутка адпускаюць. Пад пастарункам, што надзвычай прыемна, мяне ўжо сустракаюць каля двух дзесяткаў нашых гарадзенскіх адраджэнцаў, якія ўжо ўсклалі кветкі да мемарыяльнай шыльды паўстанцам на вакзале, а пасля выявілі сапраўдную салідарнасць і не пабаяліся прыйсці мяне "вызваляць". Ідзем далей разам ускладаць кветкі да іншых беларускіх адрасоў і помнікаў, але настрой ужо крыху сапсаваны...***

Сёлета грамадска-палітычныя актывісты з Гарадзеншчыны – слонімскія, лідскія, свіслацкія, мастоўскія – як маглі годна адсвяткавалі Дзень Волі. Нехта прыбраў помнікі, нехта ўсклаў кветкі, нехта правёў футбольны мінітурнір, а нехта павывешваў і бел-чырвона-белыя сцягі над сваімі дамамі. Большая ж частка грамадства і не ведае, што святкавалі беларусы ўсяго свету ў гэты дзень. Не ведае, бо ня хоча ведаць, "звычайныя людзі" дагэтуль не ўсведамляюць каштоўнасці сваёй дзяржавы, вартасць гістарычных датаў і нацыянальных сімвалаў. І таму яны па-ранейшаму будуць душыцца ў чэргах па таннейшае малако, ці пад консулятамі, каб атрымаць візу за мяжу, ці ўжо гадзінамі стаяць на гэтай мяжы, ці сядзець і корпацца ў зямлі, не разгінаючы спіну.

Дзень 25 сакавіка бягучага году чарговы раз засведчыў той стан, у якім апынулася Рэспубліка Беларусь у выніку шматгадовага кіравання Аляксандра Лукашэнкі. Стан гэты можна акрэсліць як "самаакупацыя". У Беларусі, якая дэкляраваная незалежнай краінай, у якой ёсць Канстытуцыя, што нібыта гарантуе грамадзянскія правы, няма права ў карэннай нацыі беларусаў на нацыянальнае выяўленне. Розныя акупанты ў розныя часы дазвалялі тытульнай нацыі больш, чым сённяшняя "беларуская" улада. І што яна думае рабіць далей? Трымаць у заложніках 10 мільёнаў насельніцтва, ствараць канцэнтрацыйныя лагеры для




тых, хто хоча і імкнецца "людзьмі звацца", знішчаць фізічна тысячы сваіх грамадзянаў?

Дзяржаўная ўлада Рэспублікі Беларусь, яе кіраўнікі і прадстаўнікі жывуць паводле прынцыпу, сфармуляванаму яшчэ ў старажытнасці – "пасля нас хоць патоп". Дзеля ўтрымання сваёй улады "тут і сёння" яна гатовая на ўсё. А між тым Аляксандру Лукашэнку і яго бліжэйшаму атачэнню яшчэ не позна схамянуцца, спыніць палітычныя рэпрэсіі, пачаць грамадзянскі дыялог і рэформы. Бо найбольшыя заложнікі такога стану рэчаў у дзяржаве – яны самы. Гэта ў іх найперш пры такой знешняй і унутранай палітыцы няма ніякай будучыні.

Што датычыць бальшыні апазіцыі, то яна слаба асэнсоўвае сваю місію, пераважна дрэйфуючы па волі хваляў, часам плывучы ім насуперак, але не заглядваючы наперад. Словам, "зменім уладу, а там неяк разбярэмся, неяк дамо рады". І, нягледзячы на высокі інтэлектуальны патэнцыял, публічна так і не прапанавана ніякіх сур'ёзных праграмаў рэфармавання краіны. На маю думку дэмакратычная апазіцыя ў ўмовах, калі незалежнасць краіны пад пагрозай знішчэння яе Расіяй, паглынання ўсходнім агрэсіўным суседам, мусіць сфармуляваць свае прапановы кіраўніцтву краіны. А менавіта прапанаваць Лукашэнку і яго сям'і гарантыі асабістай недатыкальнасці пры ўмове мірнага і канстытуцыйнага зыходу ў адстаўку, надалей больш настойліва і паслядоўна патрабаваць вызвалення палітвязняў, дамагацца перамоваў і агульнанацыянальнага "круглага стала", стварэння пераходнага кааліцыйнага ўраду, распрацаваць максімальна справядлівы закон аб люстрацыі. Дэмакратычная апазіцыя не мусіць гуляць у розныя гульні паводле чужых сцэнараў, кшталту "выбараў у парлямант". Скажаце, што ўсё гэта ўтапічна? Магчыма, але калі гэтага не зрабіць, то тады шанцаў на змены да лепшага не будзе дакладна.

*Уладзімір Хільмановіч*

# Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на красавік 2012 году

**1 красавіка**

135 гадоў таму (1877) – У в. Дабрасельцы (Зельвенскі р-н) нарадзіўся Васіль Захарка, беларускі грамадзка-палітычны дзеяч, старшыня Рады БНР з 1928 па 1943 гг.

**4 красавіка**

455 гадоў таму (1557) – У маёнтку Астроўна (Бешанковіцкі р-н) нарадзіўся Леў Сапега, дзяржаўны дзеяч ВКЛ, канцлер, магнат. На Гарадзеншчыне валодаў Слонімскім староствам, Каменкай (Шчучынскі р-н).

330 гадоў таму (1682) – Памёр Міхал Казімер Пац (нар. у 1624), дзяржаўны і вайсковы дзеяч ВКЛ. Валодаў Геранёнамі.




**8 красавіка**

80 гадоў таму (1932) – У мяст. Нягневічы (Наваградзкі р-н) адбыўся збройны выступ сялян, быў разгромлены паліцэйскі пастарунак.

**14 красавіка**

305 гадоў таму (1707) – Памёр Тодар Абуховіч (нар. у 1642 у в. Дарагава, Карэліцкі р-н), дзяржаўны, вайсковы дзеяч ВКЛ, мемуарыст.

**15 красавіка**

160 гадоў таму (1852) – Памёр Тадэвуш Тышкевіч, дзяржаўны і вайсковы дзеяч ВКЛ, удзельнік паўстаньняў 1794 і 1830 гг. З 1813 жыў у Сьвіслачы.

**16 красавіка**

65 гадоў таму (1947) – Памёр Антон Дамброўскі, беларускі грэцка-каталіцкі дзеяч, філёсаф, тэоляг. З 1925 працаваў у Альбярціне і Сынковічах.

**18 красавіка**

Міжнародны дзень помнікаў і гістарычных мясьцін.

165 гадоў таму (1847) – Памёр Станіслаў Юндзіл, прыродазнавец, дасьледнік расьліннага і жывёльнага сьвету Беларусі. Нараджэнец в. Ясенцы, пахаваны ў в. Нача (Вараноўскі р-н).

125 гадоў таму (1887) – У мяст. Турэц (Карэліцкі р-н) нарадзіўся Анатоль Дзяркач (сапр. Анатоль Зімёнка), беларускі паэт, сатырык, гумарыст.

60 гадоў таму (1952) – За адну ноч з Заходняй Беларусі на ўсход СССР вывезьлі 1683 сям'і, якія былі абвінавачаныя ў "варожай дзейнасьці супраць калгасаў".

**19 красавіка**

105 гадоў таму (1907) – У в. Вялікая Кракотка (Слонімскі р-н) нарадзіўся Рыгор Акулевіч, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, выдавец, публіцыст, актывіст Грамады і ТБШ, дзеяч эміграцыі ў Канадзе (Фэдэрацыя рускіх канадцаў).

**21 красавіка**

110 гадоў таму (1902) – У в. Ясянёўка (Беласточчына) нарадзіўся Вацлаў Пянткоўскі, каталіцкі сьвятар, асьветнік. Перад другой сусьветнай вайной служыў прэфектам наваградзкай гімназіі.

**23 красавіка**

355 гадоў таму (1657) – Памёр Сільвестар Косаў (нар. у кан. 16 ст. у маёнтку Жаробычы, Шумілінскі р-н), праваслаўны царкоўна-грамадзкі дзеяч, пісьменьнік, публіцыст.

**25 красавіка**

40 гадоў таму (1972) – У г. Самэрсэт (ЗША) памёр Віктар Войтанка (на эміграцыі Віктар Васілеўскі), дзеяч самакіраваньня, БКА, у 1943 працаваў лекарам у Слоніме, медык, праваслаўны сьвятар, дзеяч эміграцыі.

**26 красавіка**

Дзень памяці ахвяраў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС (1986).

150 гадоў таму (1862) – У Вільні пасьля сібірскай катаргі памёр Аляксандар Далеўскі, адзін з стваральнікаў Братняга зьвязу літоўскай моладзі, удзельнік вызвольнага руху. Нараджэнец фальв. Кункулка (Лідзі пав.).

**27 красавіка**

95 гадоў таму (1917) – У Варшаве памёр Лазар Замэнгоф, лекар, вынаходнік мовы эсперанта, які нарадзіўся ў Беластоку і пэўны час жыў у Гародні.

90 гадоў таму (1922) – У в. Запольле (Наваградзкі р-н) нарадзілася Яўгенія Шастак, беларуская грамадзкая дзеячка, лекарка, вязень ГУЛАГУ.

65 гадоў таму (1947) – У Менску памёр Валянцін Таўлай, беларускі паэт, дзеяч заходнебеларускага руху. У 1920-21 з бацькамі жыў у Зельве, вучыўся ў Вялікай Кракотцы і Слоніме, працаваў у Лідзе. Пахаваны на Вайсковых могілках у Менску.

**30 красавіка**

380 гадоў таму (1632) – Памёр Жыгімонт ІІІ Ваза, вялікі князь ВКЛ і кароль польскі ў 1587-1632 гг.

Гарадзенскі праваабарончы
інфармацыйна-аналітычны
бюлетэнь «Прэзумпцыя»
выходзіць 1 раз у месяц
наклад 299 асобнікаў
для нутранога карыстаньня

падрыхтаваны да друку:
сакавік 2012
e-mail:prezumpcyja@gmail.com
распаўсюджваецца задарма
пры перадруку спасылка
абавязковая


